№ 9-10 (11-12)
июль 2007 г.

# Глуская ПАНОРАМА

Общественно-политическая газета



## РАСКОПКИ ГЛУСКОГО ЗАМКА

В очередной раз на глуском стадионе проводятся раскопки замка. Это уже 12-й сезон раскопок. Как всегда, руководит археологическими изысканиями кандидат исторических наук Ирина Ганецкая, сотрудник Института истории Национальной Академии наук. Как обычно, в раскопках участвуют глуские школьники. Работу осложняет сильная жара, которая началась в этом году уже в мае месяце и стоит все лето. Тяжело копать, когда на термометре под тридцать градусов. Да и стенки раскопа, быстро высохнув, начинают осыпаться. После обвала юным землекопам приходится начинать все сначала. Дожди, которые хоть и редко, но случаются, тоже провоцируют обвалы.

Тем не менее, каждый день раскопок приносит десятки находок. Осколки глиняной и стеклянной посуды, кафельные плитки с печей, кости, различные предметы из железа и дерева - все эти вещи позволят узнать что-то новое о том, что было здесь более трехсот лет назад, когда на месте нынешнего стадиона, так непродуманно построенного в конце восьмидесятых годов прошлого века, стоял величественный замок, обнесенный высокими стенами и окруженный глубоким рвом, замок, который положил начало Глуску.

Уже не первый раз в раскопках принимают участие ученики СШ № 3 одиннадцатиклассник Виктор Липский и его брат восьмиклассник Слава, восьмиклассник Дима Ляпко. А вот десятиклассники Слава Васюкович, Леша Ёщик, Саша Гончаров здесь работают впервые. Как всегда, когда требуется переместить с одного места на другое большие отвалы выкопанной земли, приходят на помощь взрослые энтузиасты - Владимир Тупица, Владимир Медведев и Сергей Медведев. По старой памяти помогают студенты Дмитрий Саватеев и Виталий Иванов.

Что принесет новый сезон исследователям глуского замка, будет более или менее ясно только к началу следующего сезона раскопок, когда И. Ганецкая изучит все выкопанные находки и составит отчет. Но пока несомненно одно - диалог с историей продолжается. И глущане скоро будут еще больше знать о своей родине, чем знали раньше. Возможно, со временем найденные находки займут почетное место в музее, который рано или поздно откроется в Глуске. И тогда убеленные сединами отцы будут приводить туда своих детей и с гордостью говорить: «А вот этот экспонат мы нашли в 2007 году. Ох, и жаркое было лето...»

***Игорь Кирин. Фото автора.***



Ірына ГАНЕЦКАЯ

# ГЛУСКІ ЗАМАК

## Гісторыя аднаго помніка у асобах



*ГАНЕЦКАЯ Ірына Уладзіміраўна- кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Нарадзілася у г. Маладзечна. Скончыла гістарычны факулыпэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1984), аспірантуру Інстытута гісторыі НАН Беларусі (1989).Аўтар манаграфіі «Маёліка на Беларусі у XI-XVIII стст.» (Мн., 1995), навуковых артыкулаў. Навуковы рэдактар IV тома «Археалогіі Беларусі» (Мн., 2001) (разам з В.М.Ляўко і Ю.А.Заяцам). Займаецца археалогіяй перыяду XI-XVIII стст. (город, замак, помнікі архітэктуры, керамічныя вырабы), гісторыяй культуры XI-XIII стст.*

Ужо больш за 10 гадоў доўжыцца вывучэнне Глускага замка, помніка гісторыі і археалогіі XVI-XVIII стст. Па выніках даследавання замка можна напісаць некалькі яго гісторый: археалагічную, архітэктурную, дакументальную. У сваім артыкуле аўтар звяртае ўвагу на асоб, якія ім валодалі. Абапіраючыся на пісьмовыя крыніцы і даныя археалогіі, храналагічна аднаўляе паслядоўнасць і высвятляе прычыны змены ўладальнікаў Глускага замка. У літаратуры, прысвечанай яго гісторыі, застаецца адкрытым пытанне аб заснавальніку, не прасочаны парадак змены ўладальнікаў, недакладна датуецца пераход замка ад аднаго магнацкага роду да другога. На падставе даных пісьмовых крыніц, археалогіі, геральдыкі і генеалогіі, паспрабуем коратка выкласці гісторыю Глускага замка у падзеях і асобах.

Глуск згадваецца у пісьмовых крыніцах XIV-XV стст. як вотчына старажытнага княжацкага роду Гальшанскіх. Яго прадстаўнікі адыгрывалі значную ролю у гісторыі Вялікага княства Літоўскага у XIV-XVстст., прымалі актыўны ўдзел у палітычным жыцці дзяржавы. Род Гальшанскіх карыстаўся гербом «Гіпацэнтаўр» (на гербе прадстаўлена міфічная істота з торсам і галавой чалавека і тулавам каня, замест хваста - дракон, у пашчу якога накіравана страла). Родавым уладаннем гэтага княжацкага роду з'яўляліся Гальшаны. У XV ст. Гальшанскае княства межавала з Глускай воласцю, цэнтрам якой, верагодна, быў першапачатковы Глуск (цяпер в. Гарадок).

Першым вядомым прадстаўніком роду Гальшанскіх быў Іван Альгімонтавіч (згадваецца у крыніцах у 1379-1401 гг.) - верны паплечнік вялікага князя літоўскага Вітаўта. Пасля смерці Скіргайлы Вітаўт прызначыў яго кіеўскім наменікам. За добрую службу Іван Гальшанскі атрымаў ад Вітаўта дзве вялікія воласці - Глуск і Парэчча, а таксама Дубровіцкае княства (Украіна). Іван Альгімонтавіч меў чатырох сыноў - Андрэя, Сямёна, Аляксандра, Міхаіла і дачку Ульяну, якая у 1418 г. стала жонкай вялікага князя літоўскага Вітаўта. Унучка Івана Альгімонтавіча Соф'я (дачка Андрэя Іванавіча) у 1422 г. выйшла замуж за Ягайлу. Соф'я Андрэеўна стала польскай каралевай і заснавальніцай дынастыі Ягелонаў (нарадзіла Ягайлу сыноў Уладзіслава і Казіміра).

Пасля Івана Альгімонтавіча Глуская воласць перайшла да яго сына Сямёна (?-1433), празванага Лютым. Сямён Іванавіч браў актыўны ўдзел у барацьбе за ўладу у ВКЛ паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам на баку апошняга. У 1432 г. ён узначаліў змову супраць Свідрыгайлы, за што быў пакараны смерцю у 1433 г., калі трапіў у палон да свайго ворага. Сямён Іванавіч меў шэсць сыноў - Андрэя, Сямёна, Данілу, Аляксандра, Глеба і Юрыя, а таксама дачку Ульяну.

Пасля смерці Сямёна Лютага глускія ўладанні былі падзелены паміж яго дзецьмі. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што часткамі Глускай воласці валодалі Андрэй Сямёнавіч, Глеб Сямёнавіч (памёр бяздзетным да 1455 г.) і Юрый Сямёнавіч. З гэтага часу Глуская воласць пастаянна дзялілася паміж шматлікімі нашчадкамі князёў Гальшанскіх на ўсё больш дробныя часткі. Дачка Сямёна Іванавіча, Ульяна, выйшла замуж за Марціна Гаштольда, і некаторыя родавыя землі Гальшанскіх, у тым ліку і частка Глускай воласці, перайшлі да Гаштольдаў.



*Гіпацэнтаўр. Герб князёў Гальшанскіх.*

Юрый Сямёнавіч меў сыноў Івана, Аляксандра, Васіля, Юрыя, Сямёна і дачку Ганну, якая стала другой жонкай Марціна Гаштольда.

Пасля смерці Юрыя Сямёнавіча у 1469 г, згодна яго волі, частка глускіх уладанняў, што належала яму, была падзелена паміж сынамі у роўных долях[1]. Як вынікае з матэрыялаў судовых спраў 1507 г.[2], нашчадкі Юрыя Сямёнавіча (а у дакументах фігуруюць яго сын Аляксандр, унук Юрый Іванавіч, жонка Сямёна Юр'евіча Настасся) валодалі некаторымі вотчынамі супольна.

Сямён Юр'евіч выдаў сваю дачку Таццяну замуж за Канстанціна Іванавіча Астрожскага, творцу перамогі у бітве пад Оршай 1514 г. Так частка уладанняў князёў Гальшанскіх перайшла князям Астрожскім.

Івану Юр'евічу адышла Дубровіца[3], таму ён атрымаў да свайго прозвішча прыстаўку Дубровіцкі і стаў пачынальнікам асобнай галіны роду - князёў Гальшанскіх на Дубровіцы, ці Дубровіцкіх. Іван Гальшанскі браў удзел у змове супраць вялікага князя літоўскага Казіміра, за што быў пакараны смерцю у 1481 г. Яго сынам удалося захаваць зямельныя ўладанні бацькі, у тым ліку Глуск і Дубровіцу[4].

Адным з уладальнікаў Глускай воласці быў сын Івана Юр'евіча,

Юрый Гальшанскі-Дубровіцкі. У 1507 г. Юрый Іванавіч звяртаецца да вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I з просьбай надаць яму у спадчыну родавыя ўладанні Гальшанскіх, што засталіся ад яго бабкі Юльяны і дзядзькаў - Васіля і Юрыя. Справа была вырашана станоўча[5]. Юрый Іванавіч правёў таксама некалькі абменаў з іншымі ўладальнікамі Глускай воласці, каб сабраць свае землі у кампактную тэрыторыю і выдзеліць іх у асобную воласць. Дасягнуўшы сваей мэты, ён пабудаваў замак і заснаваў цэнтр новаўтворанай воласці - мястэчка Глуск-Дубровіцкі (цяпер Глуск). У старой заставалася паселішча з назвай Глуск, першапачатковы цэнтр воласці. У 1570 г. Уладзімір Забалоцкі, дзяржаўца ляхавіцкі, спаліў стары Глуск, які з таго часу пачалі называць Пагарэлым. Пры працы з пісьмовымі крыніцамі трэба быць уважлівым і з кантэксту кожнага канкрэтнага дакумента разбірацца, пра які з двух Глускаў (Пагарэлы ці Дубровіцкі) ідзе размова. Даследчыкі мяркуюць, што Глуск-Пагарэлы знаходзіўся на месцы цяперашняй вёскі Гарадок (Глускі р-н), што пацвярджаецца і пісьмовымі крыніцамі[6]. Пра час пабудовы замка і заснавання Глуска-Дубровіцкага сведчыць каралеўскі прывілей:

«Жикгимонт божю млстю король польский великий князь Литовский руский княжа пруское жемойтский и иных.

Бил нам чолом князь Юрий Иванович Дубровицкий и поведал перед нами штож он збудовал собе у выймени своем замок у Глуску и просил в нас абыхмо ему дозволили там место садити и торг и корчмы мети... Што мы з ласки нашое на его чоломбите то вчинили иж мает там при замку его глуском место садити и торг и корчмы мети... И на то есмо ему дали сес нам лист з нашоюе печатью. Писан у Ломазе под леты божею нароженя 1522 мца декабря 20»[7].

Такім чынам, 20 снежня 1522 г. з'яўляецца афіцыйнай датай заснавання Глуска-Дубровіцкага. Гэтая інфармацыя пісьмовай крыніцы пацвярджаецца і вынікамі археалагічных раскопак. Дзесяцігадовыя археалагічныя даследаванні Глускага замка паказалі, што самыя раннія культурныя напластаванні датуюцца не раней чым першай паловай XVI ст. Пры добра захаванай стратыграфіі адсутнічаюць не толькі адкладанні, але і ўвогуле рэчы X-XV стст.

Самыя раннія дакументы па гісторыі Глуска-Дубровіцкага звязаны з імем яго заснавальніка. Гэта прывілеі князю Юрыю Іванавічу на правядзенне у Глуску кірмашоў у дзень «св. Мікалая асенняга» (ад 29 ліпеня 1525 г.)[8] і у дзень «св. Мікалая вясенняга» (ад 15 студзеня 1527 г.)[9].

Юрый Іванавіч меў дванаццаць дзяцей: пяцёра з Юльянай Іванаўнай Яраславічавай і сямёра з Марыяй Андрэеўнай Сангушкавай. Пасля смерці Юрыя Гальшанскага-Дубровіцкага паміж яго сынамі ад першага шлюбу, Янушам і Уладзімірам, з аднаго боку, і ўдавой, княгіняй Марыяй - з другога, разгарэўся канфлікт з-за некаторых зямель і маёмасці[10]. Разбіральніцтва доўжылася два гады - з 1536 па 1538 г. Глуск сярод спрэчных уладанняў не згадваўся. Падчас вырашэння гэтай справы княгіня Марыя прадставіла каралю тастамент памерлага мужа[11], у якім князь Юрый выказаў сваю волю наконт свайго пахавання і памінання у праваслаўных цэрквах. Сярод шматлікіх храмаў, у якіх належала заказаць памінальныя службы, згадваецца і «царква святога архангела Міхаіла у Глуску»[12]. У тастаменце падрабязна пералічваецца маёмасць, што заставалася княгіні Марыі і яе сямі непаўналетнім дзецям, астатняе старэйшыя сыны павінны былі падзяліць паміж сабой пароўну.

Глуск адышоў сынам ад першага шлюбу - Янушу і Уладзіміру. Яны валодалі ім супольна. У 1545 г. малодшы з братоў, Уладзімір, загінуў ад рук татараў, якія раптоўна напалі на яго падчас палявання. Жонка Уладзіміра, Марына Саламярэцкая, выйшла замуж другі раз і згубіла права на Глуск. Януш Юр'евіч, дзяржаўца горвальскі, стольнік ВКЛ, ваявода кіеўскі з 1542 г., ваявода трокскі з 1544 г., застаўся адзінаўладным гаспадаром Глуска-Дубровіцкага, аднак ненадоўга. Ён памёр у 1549 г., не пакінуўшы нашчадкаў.

Пасля смерці Януша Глуск-Дубровіцкі з замкам перайшоў да Сямёна Юр'евіча, сына Юрыя Іванавіча ад другога шлюбу. У тастаменце бацькі і судовых дакументах 1537-1538 гг. пра Сямёна Юр'евіча гаворыцца як пра малалетняга хлопца, а у 1546 г. ён выступав поруч з Янушам, адстойваючы права на маёмасць у судовых працэсах[13]. Гэта з'яўляецца доказам таго, што Сямён у той час ужо меў права на некаторыя вотчыны, хоць яго частка і не была выдзелена. У 1552 г. у адным з лістоў да яго Мікалай Радзівіл, ваявода віленскі, нагадваў, што той абавязаны аддаць доўг Януша, паколькі «по смерти вси именья его на твою милость яко на брата правом прироженым спали»[14]. Князь Сямён і яго маці, Марыя Андрэеўна, былі ўцягнуты ў судовыя справы, якія тычыліся спадчыны Януша[15]. У 1555 г. Сямён Гальшанскі атрымаў пасаду стольніка ВКЛ. Так сталася, што ён стаў апошнім мужчынскім прадстаўніком роду Гальшанскіх-Дубровіцкіх. У першай палове 1556 г. Сямён Юр'евіч захварэў і памёр. У 1558 г. памірае і яго жонка Ганна з роду Радзівілаў (1518- 1558). У Сямёна Юр'евіча не было дзяцей, таму ўсю яго рухомую і нерухомую маёмасць падзялілі паміж шасцю яго сёстрамі. Гэты падзел і зацверджаны 23 мая 1558 г.[16]. Згодна з ім ад-



*Выгляд бернардзінскага касцёла і кляштара ў Глуску. З чарцяжа XIX ст.*

бываўся падзел Глуска і замка паміж сёстрамі князя Сямёна, Настассяй і Соф'яй, якая выступала у гэтай справе разам з мужам Аляксандрам Палубінскім: «я кнегини Кузьминая Жеславская Настасья Юрьевна и я князь Александро Полубеньский з малжонкою моею кнегини Зофеею на нашй две части взяли ... замок Глуско з местом и со всеми мещаны з именьи бояр, шляхты, з слугами путными, з людьмй волостными и со всим яко ся тот замок сам в собе и в пожытках своих маеть ... Который жо замок Глуский ... маем в ровный дел на две части розделити межи себе»[17]. Падзел багатай спадчыны князёў Гальшанскіх дакументальна быў замацаваны толькі 23 мая 1558 г., аднак усе уладанні Сямёна Юр'евіча, у тым ліку і Глуск-Дубровіцкі, адышлі пад апеку сясцёр адразу пасля яго смерці, яшчэ у 1556 г.

Здавалася, справа была вырашана, аднак пасля 1558 г. пачаліся непаразуменні, таму ўзнікла патрэба у больш дакладнай рэгламентацыі долі кожнага з бакоў. Новы падзел адбыўся 31 сакавіка 1561 г.[18]. Дамовай прадугледжвалася, што левая частка замка, лічачы ад брамы, адыходзіць княгіні Соф'і Палубінскай з роду Гальшанскіх, а правая частка - княгіні Настассі Гальшанскай, па мужу Заслаўскай. Падзелены былі і мястэчка, і воласць.

У той час Настасся Юр'еўна была ужо хворая, яе інтарэсы прадстаўляў зяць, Іван Фёдаравіч Чартарыйскі, муж яе дачкі Ганны. Княгіня Настасся памерла у тым жа 1561 г. Пра тое, як разгортваліся падзеі далей, можам даведацца з судовай справы, разгледжанай Жыгімонтам Аўгустам 23 верасня 1563 г. Сутнасць скаргі, прадстаўленай князем Іванам Чартарыйскім, выклаў канцлер Мікалай Радзівіл. Настасся Юр'еўна завяшчала сваей дачцэ Ганне і яе нашчадкам трэцюю частку Глускага замка і двор Рычаў. Адзначалася, што Настасся Юр'еўна збіралася даць дачцэ адпаведныя дакументы на валоданне. Князь Чартарыйскі гаварыў, што Настасся Юр'еўна прыехала да іх з жонкай, аформіла усе дакументы і пакінула іх на захаванне у сваім маёнтку. Калі ж княгіня Заслаўская памерла, яе сын Януш прыехаў да маці у маёнтак і забраў усе паперы. Чартарыйскі расказаў, што, будучы хворым, князь Януш Заслаўскі папрасіў Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча, «жебы его милость о тые именья которые матка его кнегини Жеславская дотце своей кнегини Чорторыйской записала правом або вгодою з сестрою постановенье вчинил нижли его милость еще и до сих часов ото кнегини Чорторыйскую ку праву не позывал и угодою з нею около того застановенья не чинил»[19]. Справа на той момант вырашана не была. Частка Ганны Чартарыйскай была выдзелена ёй амаль што праз восем гадоў (яе муж, Іван Фёдаравіч Чартарыйскі, у лісце, датаваным 10 сакавіка 1566 г., названы нябожчыкам). Дамова паміж Янушам і Міхаілам Заслаўскімі, унукамі княгіні Настассі, і Ганнай Чартарыйскай, яе дачкой, датавана 20 ліпеня 1571 г. Па гэтай дамове канчатковы падзел паловы замка і «места Глускага» адбыўся у дзень святога Ільы 1571 г.[20].



*Графічная рэканструкцыя кафлі з гербом Аляксандра Гіляры Палубінскага. 1670 г.*

Другая палова замка з 1558 г. належала княгіні Соф'і Палубінскай, дачцэ Юрыя Іванавіча Гальшанскага. У 1580 г. Соф'я Юр'еўна адпісала свае правы на частку Глускага замка і воласці мужу, Аляксандру Іванавічу Палубінскаму, а ён у сваю чаргу на выпадак сваей смерці перадаў сваю долю глускіх уладанняў сыну Аляксандру[21].

У наступным годзе князі Януш і Міхаіл Заслаўскія «за пять десят тисечи коп грошей литовских навечно продали ... часть... в замку и в месте Глуску и в волости Глуской» сваей цётцы, Ганне Чартарыйскай, пра што сведчыць купчы ліст, датаваны 10 чэрвеня 1581 г.[22]. Ганна Чартарыйская памерла у 1582 г., і яе доля у Глускім замку адышла яе сыну. З гэтага часу у замка застаюцца два гаспадары: Юрый Іванавіч Чартарыйскі і Аляксандр Палубінскі. У дэкрэце 1584 г. вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя пра размежаванне Глуска са староствам Рудабелка гаспадарамі Глуска названы «князь Александер Полубенский староста Вилькийский и Поюрский и малжонка его милости пани Зофия Гольшанская, и князь Юрей Чарторыский»[23].

Пасля смерці Аляксандра Іванавіча Палубінскага, мужа Соф'і Юр'еўны Гальшанскай, яго частку Глускага замка атрымаў у спадчыну сын - Аляксандр Палубінскі, падкаморы лідскі, стараста вольмарскі[24], а пасля смерці Аляксандра Аляксандравіча у 1616 г. - яго сын Канстанцін[25].

У 1624 г. памірае Юрый Чартарыйскі, і яго палова Глускага замка адыходзіць двум сынам ад першага шлюбу - Мікалаю і Адрыяну. Адрыян, які ўступіў у ордэн бернардзінцаў, адмаўляецца ад сваіх маёмасных правоў на карысць брата. Мікалай Юр'евіч Чартарыйскі нядоўга гаспадарыў у замку. У 1625 г. Глуск-Дубровіцкі яшчэ з'яўляецца супольнай уласнасцю Канстанціна Палубінскага і Мікалая Чартарыйскага[26], але ўжо 26 лютага 1626 г., калі разглядаецца справа пра размежаванне Глускай воласці са староствам Бабруйскім, толькі Канстанцін Палубінскі, маршалак слонімскі, названы «посесором теперешним пререченого именья Глуского»[27]. У купчым лісце ад 4 ліпеня 1626 г. сказана, што «частка ... князю Чартарыйскаму правам прыроджаным па прабабцы ... княгіні Гальшанскай прыналежачая Глуска Дубровіцкага, гэта значыць двор Глуск з усімі надворнымі пабудовамі, з капліцай рымскага набажэнства, з цэрквамі рускімі, з мяшчанамі Глускімі..., з




*Тытульны ліст кнігі «Разарыум» А.Тарасевіча з гербом А. Г. Палубінскага.*

фальваркамі» прададзена «яго міласці пану Канстанціну Аляксандравічу Палубінскаму, маршалку Слонімскаму,... правам вячыстым і непарушным ... за 50 000 злотых польскіх»[28].15 студзеня 1638 г. быў складзены інвентар маёнтка Глуска-Дубровіцкага, самы ранні з тых, што захаваліся да нашых дзён[29]. Тут упершыню падрабязна апісваецца само мястэчка. У ім былі 331 пляц, дзве уніяцкія царквы («пад уніяй з касцёлам святым рымскім будучых»), праваслаўная царква («схізмацкая»), рыначная плошча. Мяшчане у інвентары, як і належыць, пералічаны па вуліцах, тады іх было чатырнаццаць. Невялікі каталіцкі касцёл, ці капліца, знаходзіўся у двары пры замку.

Пасля смерці Канстанціна Аляксандравіча, які меў шэсць сыноў і шэсць дачок, Глускі замак перайшоў у спадчыну да сына, Аляксандра Гіляры. У 1646 г. ён атрымаў каралеўскі прывілей на правядзенне у Глуску-Дубровіцкім аднаго кірмашу у год працягласцю у тыдзень[30]. Аляксандр Гіляры Палубінскі актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці Рэчы Паспалітай, паказаў сябе таленавітым военачальнікам у войнах са Швецыяй і Расіяй. Падчас вайны Расійскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. у пачатку сакавіка 1655 г. атрад казакаў Івана Залатарэнкі разбурыў Глуск: «добывали и, добывши, огнём выпалили, много врагов и недругов в.[ашего] Ц.[арского] вел.[ичества], там пребывающих, под мечь подклонили...»[31]. Моцна пацярпелы ад казакаў горад канстытуцыяй сойма ад 19 мая 1655 г. быў вызвалены ад падаткаў[32]. Падатковыя льготы для Глуска-Дубровіцкага былі пацверджаны канстытуцыямі соймаў 1670, 1673 і 1677 гг.[33]. Аляксандр Гіляры адразу ўзяўся за аднаўленне замка, была ўзведзена фактычна новая магутная фартэцыя з дзвюма мураванымі вежамі, землянымі валамі, пяццю бастыёнамі і ровам, запоўненым вадой. У 1667 г. сойм пацвердзіў выдзяленне Аляксандрам Палубінскім «месца на касцёл, кляштар і сад» айцам бернардзінцам у Глуску-Дубровіцкім[34].

Аляксандр Гіляры Палубінскі быў не толькі дзяржаўны дзеяч, але і вядомы мецэнат. У 1670-я гг. пад яго патранатам у Глуску працаваў знакаміты гравёр таго часу Аляксандр Тарасевіч, што засведчана надпісам на адной з яго гравюр. Аляксандр Гіляры не раз наведваў сваю рэзідэнцыю у Глуску. Памёр ён 3 лістапада 1679 г.

Аляксандр Гіляры быў два разы жанаты, але дзеці на'радзіліся толькі ад другога шлюбу - з Соф'яй Валадковіч. Дзве дачкі памерлі яшчэ у дзяцінстве. Ганна Марыяна у 1672 г. выйшла замуж за Дамініка Мікалая Радзівіла, Ізабела Алена у 1686 г. - за Юрыя Станіслава Сапегу. Сыны Аляксандра Гіляры памерлі, не пакінуўшы нашчадкаў: Дамінік Ян Міхал - у 1683 г. у Венгрыі, Крыштоф Канстанцін, які валодаў Глускам-Дубровіцкім, - у верасні 1685 г. У красавіку 1684 г. Крыштоф адпісаў сваей сястры, Ганне Марыяне, і яе мужу палову маёнтка Горы-Горкі і Шышаў, а у верасні наступнага года, перад смерцю, перадаў сестрам Явараў, Здзецел (цяпер Дзятлава), Вязавец, Зэльву, Любеч, Лоеў і астатнюю частку Горы-Горак і Шышава. 22 верасня 1685 г. Ганна Марыяна з мужам, Дамінікам Мікалаем Радзівілам, з аднаго боку, і Ізабела Алена з мужам, Юрыем Сапегам - з другога, дзялілі спадчыну Крыштофа Канстанціна, апошняга з мужчын княжацкага роду Палубінскіх. Глуск дастаўся старэйшай сястры і яе мужу. Так у гісторыі замка з'явілася новая сям'я - Радзівілы.

Ганна Марыяна Палубінская выйшла замуж за Дамініка Мікалая Радзівіла 9 кастрычніка 1672 г. Маці Дамініка, Лукрэцыя, хацела гэтым шлюбам умацаваць грамадскае і матэрыяльнае становішча сына. Дамінік вучыўся у Італіі, цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі, медыцынай. Пасля вяртання на радзіму імкнуўся актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці краіны. З вясны 1677 г. быў падскарбіем надворным літоўскім, а у 1690 г. заняў пасаду канцлера ВКЛ. У 1690 г. у Нясвіжы памірае Ганна Марыяна, і Дамінік Мікалай Радзівіл становіцца адзінаўладным гаспадаром замка, горада і воласці да сваей смерці 27 ліпеня 1697 г. Пасля смерці Ганны Палубінскай Дамінік Мікалай ажаніўся з Ганнай Крысцінай Любамірскай. Ён атрымаў каралеўскі прывілей на правядзенне у Глуску двух кірмашоў: «адзін у дзень Ачышчэння альбо Грамнічнай Найсвяцейшай Панны рускага свята па старым календары, другі у дзень Спаслання Духа Святога таксама па старым календары...»[35]. Дакумент падпісаны каралём польскім і вялікім князем літоўскім Янам III Сабескім і датуецца 12 сакавіка 1691 г. У наступным годзе быў складзены інвентар мястэчка і воласці[36].

У Дамініка Мікалая і Ганны Марыяны было восем дзяцей. Глуск атрымаў у спадчыну Мікалай Фаўстын (1688-1746). Калі памёр бацька, ён быў яшчэ малы і знаходзіўся пад апекай старэйшага брата, Яна Мікалая. Пры падзеле бацькоўскіх уладанняў яму дасталіся Глуск, Парэчча, Здзецел, Уселюб і інш.[37]. Пачатковую адукацыю Мікалай Фаўстын атрымаў у нясвіжскім калегіуме езуітаў. У 1699 г. выправіўся у пяцігадовае падарожжа за мяжу, каб працягваць вучобу. Вярнуушыся на радзіму, ён актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці дзяржавы. У 1706-1709 гг. быў чашнікам ВКЛ, у 1710-1729 гг. - мечнікам ВКЛ, у 1725 г. атрымаў чын генерал-лейтэнанта пяхоты, у 1729-м стаў ваяводам навагрудскім. Вялікі ўплыў на дзейнасць Мікалая Фаўстына меў яго шлюб у 1710 г. з Барбарай з роду Завішаў, энергічнай і амбіцыйнай жанчынай. Дакументальнымі сведчаннямі гаспадарання Мікалая Радзівіла у Глуску з'яўляюцца інвентары 1708 г., 1713 г., 1720 г., 1724 г., 1727 г.[38], а таксама апісанне вялікага звона бернардзінскага касцёла: на адным баку яго знаходзіцца герб з выявай арла і лебедзя і надпіс: «Nicolai Faustin Xsonze Radzivill Woievoda



Аляксандр Гіляры Палубінскі



Дамінік Мікалай Радзівіл



Ганна Марыяна Радзівіл (з роду Палубінскіх)


*Мікалай Фаўстын Радзівіл*


*Барбара Францішка Радзівіл (з роду Завішаў)*


*Альбрыхт Радзівіл*


*Ганна Кунегунда Радзівіл (з роду Халецкіх)*

Novogrodzki-Barbara z Zaviszow Xienzna Radzivillowa ... 1743»[39]. У1738 г. гаспадары замка прыбудавалі да касцёла мураваны двухпавярховы корпус кляштара[40]. Памёр Мікалай Фаўстын Радзівіл у Здзецеле 2 лютага 1746 г. Цела яго было пахавана у Нясвіжы, а сэрца - у Дзятлаўскім касцёле.

Наступным гаспадаром Глуска-Дубровіцкага стаў сын Мікалая Фаўстына і Барбары Завішы Альбрыхт, які нарадзіўся 25 сакавіка 1717 г. Сваю дзейнасць Альбрыхт Радзівіл пачынаў з пасады старасты судовага рэчыцкага, якую атрымаў у 1734 г. У 1750 г. ён быў абраны маршалкам Трыбунала ВКЛ. У 1755 г. атрымаў званне генерал-маёра войска ВКЛ. Альбрыхт Радзівіл - адзін з нямногіх гаспадароў, хто стала жыў у Глуску. Пры ім былі складзены інвентары 1755 г.41, 1778 г.[42]. У 1778 г. Альбрыхт Радзівіл атрымаў пацвярджальны прывілей караля Станіслава Аўгуста на правядзенне у Глуску-Дубровіцкім трох кірмашоў у год[43]. У 1784 г. разглядалася судовая справа паміж Альбрыхтам Радзівілам і манахамі-бернардзінцамі Глускага кляштара. Уладальнік мястэчка і замка аспрэчваў права бернардзінцаў на пляц у замку[44]. Суд пацвердзіў правы бернардзінцаў. Альбрыхт Радзівіл памёр пасля 1791 г. у Глуску, быў пахаваны у Нясвіжы. З жонкай, Ганнай Кунегундай Халецкай (1723-1765), ён меў сына Дамініка і трох дачок - Алаізу, Марыю і Барбару.

Пасля смерці Альбрыхта Глуск-Дубровіцкі перайшоў у спадчыну да яго сына Дамініка, які адразу прадаў яго Юзафу Юдзіцкаму, стражніку ВКЛ: «места Глуск у ваяводстве Навагрудскім ляжачае з замкам, з забудовай замкавай і з усім, што у ім знаходзіцца»[45]. Юзаф Юдзіцкі быў жанаты з сястрой Дамініка Алаізай. У XIXст. у Глуску ужо гаспадарылі графы Юдзіцкія, нашчадкі Юзафа Юдзіцкага і Алаізы Радзівіл.

1НГАБ. КМФ-18, воп. 1,спр.25,арк.29 адв.
2Там жа. Спр. 222, арк. 86-87.
3Там жа. Спр. 25, арк. 29 адв.
4Там жа. Спр. 222, арк. 151 адв.
5Там жа. Спр. 25, арк. 29 адв.-31.
6Там жа. Ф. 1774, воп. 1,спр.4, арк. 128.
7Хрестоматия по истории Белоруссии. Ч. 1.Мн., 1976. С. 14.
8НГАБ.КМФ-18,воп. 1,спр. 12, арк. 360.
9Там жа. Арк. 444.
10Там жа. Спр. 20, арк. 59 адв., 185 адв.-195.
11Там жа. Спр. 21,арк. 170адв.-173.
12Там жа. Арк. 171 адв.
13Wolf J. Kniaziowie litewsko-ruscy konca czternastego wieku. W-wa, 1895. S. 110.
14НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 241, арк. 78.
15НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 237, арк. 199 адв.-200, 250-250 адв., 281 адв.-282,403-404; спр. 240, арк. 209-209 адв.; спр. 241, арк. 78; спр. 242, арк. 186 адв.-191 адв.
16Там жа.Спр.38,арк. 158 адв.-161.
17Там жа.Арк. 159 адв.-160.
18Там жа.Ф.694, воп. 1,спр. 163.
19Там жа. КМФ-18, воп. 1, спр. 254, арк. 392 адв.-394.
20Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна. Т. 1. 1867. С. 35-45.
21НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 274, арк. 185-189.
22Там жа. Спр. 68, арк. 303 адв.
23Там жа.Ф. 694, воп. 1 ,спр. 167.
24Там жа. Спр. 111, арк. 210 адв.-217.
25Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна. Т. 1. 1867. С. 248-249.
26НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 99, арк. 100.
27Там жа.
28Там жа.Ф.694,воп. 1,спр. 177.
29Там жа.Ф. 179,воп. 1,спр. 150.
30Там жа. КМФ-18,воп. 1,спр. 119, арк. 690 адв. ;ф. 694, воп. 7, спр. 650, арк. 27.
31Архив Юго-Западной России, издаваемый Временною комиссиею для разбора древних актов. Т. XIV. СПб., 1889. С. 540.
32Volumina legum.T. 4. Petersburg, 1859.S.232.
33Ibidem. T. 5. Petersburg, 1860. S. 91(158), 259; НГАБ. КМФ-18, воп. 1,спр. 37, арк. 50 адв.-51 адв.
34Volumina legum.T. 4.S.474(1006).
35НГАБ. Ф. 694, воп. 1, спр. 187.
36Там жа. Воп. 7, спр. 846.
37Polski Slownik Biograficzny. T. XXX /1. Zeszyt 124. Wroclaw-W-wa-Krakow-Gdansk-Lodz, 1987. S.363.
38 Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. С. 607; НГАБ. Ф. 179, воп. 1, спр. 149; ф. 27, воп. 6, спр. 3; воп. 6, спр. 5; ф. 694, воп. 7, спр. 220.
39РДГА. Ф. 826, воп. 1, спр. 896, арк. 58.
40Там жа.Ф.822,воп. 12, спр. 3179, арк. 10.
41НГАБ. Ф. 179, воп. 1, спр. 153.
42Там жа. Спр. 151.
43Там жа. Спр. 9,арк. 1010.
44Там жа.Ф. 1769, воп. 1, спр. 11, арк. 143-145.
45Там жа. Ф. 694, воп. 7, спр. 650, арк. 31-34.

***Беларускі гістарычны часопіс № 9, 2006***



*Желающих регулярно получать «Глускую панораму» просим сообщить об этом в редакцию газеты.*

№ 9-10 (11-12) июль 2007 г. Глуская ПАНОРАМА

***Общественно-политическая газета.***
***Выходит с июля 1998 г. Редактор - Игорь Кирин.***
***Адрес для писем: 213879, г.п. Глуск, ул. Кирова, 43-18.***
***Тираж - 299 экз. Тел. 41522. E-mail: glu-cl@mail.ru***
***http://hot.ee/glusk***